# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 39 (53) | 10—16 сьнежня 1993 г. | Кошт 50 рублёў

**ПАЛІТЫКА БАНКРУЦТВА.** Беларусь — аўтаномія Расеі? Гэта шлях у... нікуды.

Прадпрыймальнікі паклапоцяцца ня толькі аб сабе. **НАТАТКІ З КАНФЭРЭНЦЫІ.**

**ГЛУХІ СЬЛЯПОГА НЕ ЗРАЗУМЕЕ,** або што чыноўніку людзкія клопаты?

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## З ПОЛЬШЧЫ ВЕСТКІ З ЛЕТУВЫ

Выказваньне прэзыдэнта Леха Валэнсы наконт нямецкай меншасьці ў Польшчы выклікала зьбянтэжанасьць сярод некаторых нямецкіх палітыкаў. Лех Валэнса ў інтэрв 'ю для газэты «Die Welt» сказаў: «Тады (г. зн. падчас падпісаньня пагранічнага трактата і пагадненьня аб добрым суседзтве — рэд.) гаварылі мы аб меншасьцях, бо існавала жалезная заслона. На меншасьць інакш глядзіцца ў залежнасьці ад таго, існуе свабода падарожжаў ці не. Таму мы гаварылі аб ўчарашнім дні, а не аб Сёньняшнім або Заўтрашнім. Калі граніцы адкрытыя, няма праблемаў з меншасьцямі. Калі камусьці не падабаецца, тады той гаворыць: дзякую, ад 'яжджаю. Нямецкая меншасьць адыгрывае сёньня іншую ролю, чым у часы, калі існавала жалезная заслона.» Дэпутаты Бундэстага лічаць, што прэзыдэнт павінен патлумачыць, як трэба разумець ягоныя словы.

▬

Прэзыдэнт Лех Валэнса прыняў прадстаўнікоў Парлямэнцкай групы нямецкай меншасьці, у тым ліку й яе старшыню Гэнрыха Кроля. Падчас размовы прэзыдэнт зьвярнуў увагу на асаблівую ролю нямецкай меншасьці ў фармiраваньні супольнага вобразу разьвіцьця Эўропы. Кроль адзначыў, што кантакты з прэзыдэнтам, як і з апошнімі урадамі РП, лічыць мадэльнымі. «Лягчэй нам знайсьці спагаду ў Варшаве, чым у Боне»,— сказаў Кроль.

▬

Летувіскае консульства неўзабаве будзе адкрыта ў Сейнах. Гэтая справа была адной з тэм размовы сувальскага ваяводы Цэзары Цесьлюкоўскага з гэнэральным консулам Летувы ў Польшчы Шарунасам Адамавічусам. Стварэньне консульства ў Сейнах неабходнае з увагі на знаходжаньне горада блізка граніцы і на штодзённае прабываньне соцень летувісаў на тэрыторыі Сувальскага ваяводзтва.

▬

Палякі ўзбройваюцца. У самой Варшаве і ейным ваяводзтве з 1986 г. выдана 40 тыс. дазволаў на набыцьцё зброі. Узбройваюцца тыя, хто з недаверам ставіцца да сваіх суседзяў. Здараецца нават, што зброю набываюць з-за боязьні перад сваім мужыком ці жонкай. Польшча ўзбройваецца і гэта факт бясспрэчны. Толькі дзеля чаго гэта? Ці, можа, з аўтаматам Калашнікава ў руках можна хутчэй увайсьці ў Эўропу?

▬

Калі сёньня Польшча, адчуваючы цяжкі подых крамлёўскага мядзьведзя, горнецца пад крыло Атлантычнага Пакту, НАТА вуснамі Брытанскага лорда Карынгтона паўтарае свой стары дэвіз — што дзеля «так званай цэласьці Польшы» Захад ня будзе рызыкаваць добрымі адносінамі з Расеяй. Ніколі гэтага не рабіў, у Ялце заставіў палякаў з халоднай кроўю на талерцы Сталіна, а дзеля чаго зараз буду зьмяняць сваю адвечную палітыку?

▬

У панядзелак, 6 сьнежня адкрыўся яшчэ адзін польска-беларускі пагранічны пераход Полаўцы-Пішчотка.

Будаўнічыя работы ўжо скончаныя. Карыстацца ім могуць турысты з Польшчы і Беларусі. Грузавы транспарт прапускацца ня будзе з-за таго, што пад 'яздныя дарогі не адпавядаюць нормам.

Мытны дагляд будзе адбывацца з беларускага боку.

▬

Кардынал Ю. Глемп, прымас Польшчы, афіцыйна заявіў аб адкрыцьці Каталіцкага інфармацыйнага агэнцтва і выказаў надзею, што «яно будзе распаўсюджваць навіны аб адбываючымся дабры». «Бо часам здаецца, што людзей цікавіць толькі інфармацыя аб скандалах, сэнсацыях, а дабро, якое творыцца ціхамоўкам, застаецца незаўважаным»,— дадаў прымас.

**По матэрыялах польскага друку падрыхтаваў**

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

**ПОСТУП.**

18 лістапада споўнілася 5 год, як летувіская мова была абвешчана дзяржаўнай. За гэты параўнальна невялікі час зьмены адбыліся істотныя. Ва ўстановах, нават такіх зрусіфікаваных, як марскі і паветраны флёты, чыгунка ды інш., сёньня паўсюдна чуваць мову летувіскую. Кожнаму жыхару ствараюцца ўмовы дзеля вывучэньня дзяржаўнае мовы, выдадзена мноства разнастайных падручнікаў, працуюць шматлікія курсы. Моўную палітыку кантралюе адмысловая дзяржаўная моўная інспэкцыя.

**СКАРБЫ.**

Гэолагі сьцьвярджаюць, што нафту, радовішчы якой знайшлі ў зямельных нетрах Летувы, можна здабываць некалькі дзесяцігоддзяў і на чвэрць забясьпечваць патрэбы гаспадаркі краіны. Адну скважыну летувіскай нафты ацэньваюць багацей за амэрыканскія на 12 тысяч тон.

**ПРЭЗЭНТ.**

Сейм Летувы і Нацыянальная бібліятэка імя Мажвідаса атрымалі шыкоўны падарунак ад Кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі — кампутарнае абсталяваньне й літаратуру агульным коштам 800 тыс. даляраў. Гэтае абсталяваньне дазволіць Сойму і бібліятэцы далучыцца да банку кампутарнай інфармацыі Заходняе Эўропы ды ЗША.

**ВІЗЫТЫ.**

Падчас візыта расейскага прэм 'ер-міністра Чарнамырдзіна ў Летуву было падпісана нямала эканамічных пагадненьняў. На пытаньне адносна эканамічных стратаў, якія прынесла Летуве савецкая акупацыя, прэм 'ер Расеі заявіў, што трэба лічыць ня толькі страты, але і набыткі, мабыць, яшчэ невядома, хто каму будзе вінны.

Цікава адзначыць, што на перамовах летувіскі бок зноў узгадаў пра вяртаньне архіваў Вялікага Княства Літоўскага.

**МАХЛЯРЫ.**

У Вільні затрымалі махляроў, якія на працягу некалькіх месяцаў пасьпяхова выцыганьвалі ў даверлівых жыхароў горада немалыя грошы. Махляры давалі аб 'явы ў газэты — «зашкляем лоджыі», потым прыходзілі да заказчыкаў, здымалі памеры, бралі аванс — 110 літаў, пакідалі квітанцыю з пячаткай неіснуючай фірмы і болей не зьяўляліся...

**С. В.**

СПРАВАЗДАЧА Й ВЫБАРЫ

## Сёньня важна згуртавацца

У Горадні адбылася справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя гарадзкой арганізацыі БНФ, на якой прысутнічалі 75 дэлегатаў. Старшыня ейнай Рады спадар Кастусь Жынь у сваёй справаздачы назваў акцыі, якія праводзіліся бэнэфаўцамі: мітынгі, пікеты, вечары, распаўсюджваньне ўлётак. Але асноўная ўвага была прысьвечана адмоўным момантам. З 11 сябраў гарадзкой рады толькі некалькі зацікаўлена працавалі, іншыя справай амаль не займаліся. Паміж маладымі ды старымі ў арганізацыі пачаліся спрэчкі, няма адзінства й дысцыпліны, якім можна, як сказаў спадар Жынь, павучыцца ў сёньняшніх камуністаў. Некаторыя з Рады заняліся бізнэсам, некаторыя — адно крытыкай іншых. Часам асобныя сябры арганізацыі нават адмаўляліся патрымаць на мітынгу сьцяг.

Сёньня важна згуртавацца, тым больш гэтак ужо зрабілі ворагі незалежнасьці Беларусі. Напярэдзе гарадзкую агэнізацыю фронта чакае цяжкая праца па падрыхтоўцы й правядзеньні будучых выбараў. Спадар Жынь зазначыў, што Рада БНФ супрацоўнічала з Грамадой, Саюзам палякаў Беларусі, ТБМ і іншымі арганізацыямі.

Сакратар управы Сойму БНФ спадар Івашкевіч прапанаваў упарадкаваць працу, выбраць у Раду — паводле статуту — прадстаўнікоў першасных суполак, каб яна не была гэткім клюбам па інтарэсах, дзе зьбіраюцца паразмаўляць добрыя людзі. Перадвыбарчую працу трэба распачынаць у ЖЭСах, як гэта робяць камуністы. Да выбараў трэба добра падрыхтавацца, пагатоў у Горадні шанцы значна лепшыя, чымсьці ва ўсходніх вабласных гарадах.

Старшынём Гарадзенскай гарадзкой Рады БНФ зноў абраны спадар Жынь. Абрана таксама новая Рада з 9 асобаў. Нехта прапанаваў прысутным абмеркаваць свой сьпіс вылучэнцаў на будучыя выбары ў ВС, але яго не падтрымалі.

**11 сьнежня ў Горадні ў былым Доме палітасьветы а 11-ай гадзіне адбудзецца абласная канфэрэнцыя БНФ.**

**С. А.**

## ЗАЯВА
## Чэрыкаўскай раённай рады БНФ Магілёўскай вобласьці

Дзеяньні, якія праходзілі ў Расеі, паказалі, што пракамуністычныя і прафашысцкія антынародныя сілы, якія імкнуцца ўтрымаць уладу ў сваіх руках цаной крыві свайго народа, яшчэ раз пацьвердзілі правільнасьць пазыцыі БНФ, які вядзе доўгую і цяжкую работу па ліквідацыі ідэй і ідэялёгіі чырвонай чумы XX стагоддзя — камунізму — на тэрыторыі незалежнай Рэспублікі Беларусь.

За ўсе гады свайго кіраваньня бальшавікі не навучыліся карыстацца ўладай для карысьці народа. Пачынаючы з 1917 году імі зьнішчаны мільёны людзей. Яны хацелі затапіць нас у крыві. Беларускія камуністы, вывучаныя ў ВПШ тым жа мэтадам, не маюць маральнага права быць у органах улады і весьці народ да рабства і жабрацтва. За 76 год гаспадараньня камуністаў ва ўладзе яны не змаглі даць таго, што абяцалі народу ў кастрычніку 1917 года. І мы не жадаем больш аніякіх экспэрымэнтаў над людзьмі. Іхняму экспэрымэнту было дадзена гісторыяй больш часу, чым гэтага хацелася народу. Але мы бачым, да чаго прывялі гэтыя досьледы. Увесь сьвет жыве ў дабрабыце, а людзьмі кіруе Закон. А мы пляцемся ў хвасьце цывілізаваных народаў.

Сёньня камуністы РБ штурхаюць наш народ у камуністычны саюз з элемэнтамі, абагрыўшымі рукі крывёю ні ў чым не вінаватых людзей. Яны хочуць ашуканствам і хлусьнёй уцягнуць наш народ у грамадзянскую вайну. Яны адкрыта зьдзекваюцца над вышэйшымі дзяржаўнымі сімваламі — гэрбам і сьцягам. Яны ігнаруюць нашу мову. Родную мову. Яны бязсорамным чынам гандлююць нашай свабодай і незалежнасьцю. Гэтым яны паставілі сябе вышэй народа і па-за законам.

Таму мы патрабуем забараніць на тэрыторыі Беларусі ўсялякую дзейнасьць камуністычных і другіх левых партый, аб 'яднаньняў і рухаў. Сёньня ўжо відавочна, што менавіта КПБ і ПКБ сталі дэстабілізуючай сілай на шляху к прагрэсу. Мы патрабуем выкананьня волі людзей, якія падпісаліся за рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і правядзеньне датэрміновых выбараў.

## 7 сьнежня — 50 год з дня сьмерці В. Іваноўскага

**З гэтае нагоды ў мінулы аўторак у Базыльянскім кляштары адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя «Вацлаў Іваноўскі — жыцьцё і дзейнасьць». Яе арганізатарамі выступілі Гарадзенская краязнаўчая асацыяцыя і Гарадзенскі дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі.**

Аб жыцьцёвым лёсе славутага земляка, яго грамадзкай, палітычнай і навуковай дзейнасьці апавядалі гарадзенскія навукоўцы А. Пяткевіч, В. Руднік, У. Хільмановіч, А. Майсяёнак і сябра Саюза палякаў у Беларусі Т. Малевіч.

Як заўважыў адзін з выступаўшых, у яго бацькі было тры сыны, якія прадстаўлялі розныя народы—польскі, летувіскі і беларускі. І кожны з іх стаў па-сапраўднаму годным таго, што абраў. Вацлаў Іваноўскі стаў сапраўдным сынам беларускага народа, дзеля якога і прысьвяціў сваё жыцьцё. Дарэчы, бацька лічыў сябе ліцьвінам.

У адным з бліжэйшых нумароў «Пагоня» больш падрабязна пазнаёміць сваіх чытачоў з лёсам выдатнага сына Беларусі — Вацлава Іваноўскага.

**М. КАРНЕВІЧ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Беларусь — аўтаномія Расеі?

Вярхоўны Савет і Савет Міністраў зрабілі Беларусь аўтаноміяй Расеі. Так ацэньваюць многія аглядальнікі ратыфікацыю дагавора аб аб 'яднаньні грашовых сістэм Беларусі і Расеі. І цяпер заходнія краіны могуць адклікаць сваіх паслоў з Менску, бо Рэспубліка Беларусь хутка перастане існаваць як дзяржава.

Можа, гэта і перабольшваньне, але відавочна, што ідэя незалежнасьці Беларусі пацярпела страшны правал. Кожная сувэрэнная дзяржава павінна праводзіць уласную дзяржаўную фінансавую палітыку. Але яна можа быць толькі тады, калі ўведзена нацыянальная валюта. На яе ўвядзеньні настойваў старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, якому надакучыла быць казлом адпушчэньня ў банкруцкай палітыцы ўрада.

Тым ня менш, дэпутаты ратыфікавалі дагавор. Перамог Аляксандр Лукашэнка, які заявіў: «Реалии есть реалии и от них никуда не деться». Нардэп напалохаў сваіх калег, што стануць прадпрыемствы, і людзі згубяць працу. А будуць расейскія рублі — купім і нафту, і газ, і электраэнэргію, ды яшчэ па нізкіх цэнах. Шматлікія грунтоўныя довады з іншага боку не пераканалі парлямэнцкую большасьць.

Усё гэта заканамэрна. Палітыка ўрада — гэта палітыка банкруцтва. І яна ня можа быць іншай. Кебіч умее добра разьмяркоўваць. Гэтаму ён навучыўся, працуючы дырэктарам завода і старшынёй дзяржэканомплана ў былым СССР. Але ён ня ўмее зарабляць. І ўсе яго дзеяньні на пасадзе прэм 'ер-міністра прывялі да глыбокага эканамічнага крызісу ў рэспубліцы. Беларусь, якая была багацейшай за сваіх суседак, просіць дапамогі ў іх. Кебіч увесь час спадзяваўся, што яму дадуць, ды яшчэ па нізкіх цэнах. Але рынак ёсьць рынак. І ніхто нічога за так не дае. Вось і застаецца прэм 'еру толькі ўпрошваць Шохіна і яго каманду. Але ж і тыя хочуць мець выгаду. Таму і застаецца ісьці ў палон, уводзячы на сваёй тэрыторыі расейскі рубель.

Дэпутат Сасноў заўважыў: «Ельцын заявіў, што цераз год усім нафту будзе прадаваць па сусьветных цэнах. Таму расейскі рубель нас ня выратуе. Калі мы самі не заробім сродкі, то нічога мець ня будзем. А прадавацца з-за кавалка расейскай каўбасы не хачу».

Сярод тых, хто не падтрымаў ратыфікацыю, былі ня толькі члены апазыцыі.

Эўропа аб 'ядноўваецца — гучала на сэсіі. Але яна аб 'ядноўваецца на нэйтральнай валюце — экю. Ніхто не гаворыць аб адмене маркі, франка... Чаму ж тады мы павінны ўводзіць у сябе валюту чужой краіны. Зразумела, што Нацыянальны банк не зможа выконваць свае цяперашнія функцыі. Ён так ці інакш стане залежыць ад расейскага банка. І ўсе перабоі ў Расеі адаб 'юцца і на Беларусі.

Але ці патрэбны мы Расеі? У Расеі ідуць рэформы, там будуецца, пасутнасьці, капіталізм. Дык ці ж прымуць там нашу прасацыялістычную эканоміку? Могуць прыняць. Але паставяць жорсткія ўмовы, а менавіта: панізіць узровень інфляцыі, стабілізаваць сваю сёньняшнюю грашовую адзінку. А гэта азначае замарожваньне зарплаты, банкруцтва многіх прадпрыемстваў, развал большасьці калгасаў, вялікая колькасьць беспрацоўных.

А калі ў Беларусі і пачне функцыянаваць расейскі рубель, то тады можна чакаць банкруцтва беларускіх камэрцыйных банкаў і іншых камэрцыйных структураў, якія не змогуць канкураваць з расейскімі. Свае тавары нашы прадпрыемствы не змогуць прадаваць у Расею, бо ўсё роўна там цэны застануцца ніжэйшымі. Расейскіх рублёў у нас усё адно ня будзе. Ад Беларусі адвернуцца іншыя краіны.

Калі ж расейскі рубель стане беларускай валютай? Кебіч заяўляе, што такое здарыцца ў першым квартале наступнага года. Але ж наўрад ці. Некаторыя дэпутаты лічаць, што ўсё гэта шлях у нікуды, як дарэчы, і многія іншыя пачынаньні Кебіча.

**У. А.**

## БЗВ жыве!

### Нататкі з другога зьезду Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў

Другі зьезд павінен быў падвесьці вынікі працы маладога згуртаваньня, а таксама намеціць шляхі далейшай дзейнасьці, бо за два гады шмат чаго зьмянілася, шмат чаго адбылося.

Так, БЗВ змагло ўтрымацца. І не толькі ўтрымацца, але і стаць на ногі. Сёньня з імі лічацца, маюць справу многія дзяржаўныя, палітычныя і грамадзкія арганізацыі. Акцыі і мэрапрыемствы згуртаваньня маюць шырокі рэзананс у рэспубліцы. Але чаму БЗВ не стала сапраўды масавай арганізацыяй? Чаму яго дзейнасьць ня мае вялікага ўплыву непасрэдна ў войску?

Галоўную прычыну гэтага назваў кіраўнік маладзечанскай суполкі Валеры Касько. «Калі дзяржаўныя кіраўнікі,— сказаў ён,— адносяцца да дзяржаўнай незалежнасьці з ганьбаю, то які ў дзяржаве можа быць нацыянальны рух?» Думаецца, выказваньне дае адказ і на многія іншыя пытаньні нашага жыцьця. Напрыклад, чаму так марудна ідзе беларусізацыя ў рэспубліцы? Чаму нацыянальная ідэя не пануе ў краіне?..

БЗВ узьнікла зьнізу. Не саўмін, не міністэрства абароны стварылі яго. У дні путчу 92-га года патрыятычна настроеныя афіцэры выступілі ў абарону дэмакратыі і заявілі аб стварэньні арганізацыі. Згуртаваньне не стала кішэнным, яно мэтанакіраванае і прынцыпова дасягае сваіх мэтаў.

Аднак дэмакратычным сілам ня ўдалося ўзяць верх у вышэйшых армэйскіх і ўрадавых структурах, дзе заселі людзі з рэваншыскім настроем. І ўсе мэрапрыемствы БЗВ яны ўспрымаюць у штыкі. Так, міністэрства абароны адмовілася набываць расейска-беларускі вайсковы слоўнік, падрыхтаваны сябрам БЗВ падпалкоўнікам Суднікам. У той час яго ахвотна ўзялі ўнутраныя і пагранічныя войскі.

БЗВ адным з першых выступіла з прапановай прыняць вайскоўцам прысягу на вернасьць Беларусі. І 14 афіцэраў прынялі яе сымвалічна, што выклікала негадаваньне ва ўрадавых колах. З тых 14 служаць у войску толькі двое. Але прысягу давялося прымаць. Нават Кебіч паўтараў словы прысягі разам з вайскоўцамі ў Мар 'інай Горцы. Цяпер гэта называюць памылкай.

БЗВ цкуюць і за тое, што яно змагаецца з карупцыяй у войску, і за тое, што дапамагае беларусам-афіцэрам вяртацца служыць на Радзіму. Вайскоўцаў, якія былі сябрамі згуртаваньня, пазвальнялі з войска, прыклеіўшы ім ярлык нацыяналістаў. Дагэтуль не заціхаюць спрэчкі вакол звальненьня старшыні БЗВ падпалкоўніка Мікалая Статкевіча. Маўляў, згуртаваньне — арганізацыя палітычная, а палітыцы няма мейсца ў войску. У той жа час міністэрства юстыцыі не вызначыла, што БЗВ зьяўляецца палітычнай арганізацыяй.

Сёньняшнім гэнэралам не хочацца, каб было сапраўднае беларускае войска, яны шмат чаго губляюць ад гэтага. Могуць згубіць і працу, бо Беларусі не патрэбна так шмат гэнэралаў. Таму і супраціўляюцца яны ўсяму беларускаму. З гэтай мэтай і ідзе дыскрэдытацыя БЗВ у сродках масавай інфармацыі, ад яго імя выпускаюцца правакацыйныя ўлёткі, армэйскія дэпутаты ганьбяць яго з трыбуны Вярхоўнага Савета.

Зразумела, у такіх умовах, калі структуры ўлады сьцяной выступаюць супраць, БЗВ не змагло стаць масавым рухам. Больш таго, яно панесла страты, бо шмат вайскоўцаў з-за пагрозы звальненьня прыпынілі сваё сяброўства.

Але, акрамя гэтага, БЗВ зрабіла шэраг тактычных пралікаў. Яго сябры не змалі прадбачыць таго ціску, які на іх ляжа з боку ўладаў, і аказаліся да гэтага непадрыхтаванымі.

На зьезьдзе гаварылася, што з боку кіраўніцтва БЗВ мала надаецца ўвагі мясцовым арганізацыям.

**У. А.**

## Вызваліць органы масавай інфармацыі з-пад урадавай цэнзуры

### ЗАЯВА

### Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

Беларускае грамадзтва зьяўляецца сьведкам таго, як урад абмяжоўвае свабоду слова й друку ў нашай краіне.

Дзеля абмежаваньня аднаго з фундамэнтальных правоў выкарыстоўваюцца два інструмэнты.

У сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам газэт і часопісаў урад стаў сузаснавальнікам шмат якіх выданьняў. Ён непасрэдна фінансуе іх і кантралюе. Прэм 'ер-міністр адкрыта заявіў, што будзе падтрымліваць толькі тыя выданьні, якія не крытыкуюць Савет Міністраў. Цяпер робяцца спробы закрыць трыбуну для прадстаўнікоў розных палітычных плыняў, якою была і ёсьць самая папулярная й незалежная ад ураду «Народная газета». Паколькі гэтае выданьне зьяўляецца органам Вярхоўнага Савету, урад пры дапамозе пракамуністычнай плыні ў парлямэньце імкнецца памяняць галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

Непасрэдны кантроль за дзейнасьцю органаў масавай інфармацыі ажыцьцяўляе аддзел друку, радыё й тэлебачаньня Савета Міністраў. Гэтая ўрадавая структура, не прадугледжаная ніводным рашэньнем Вярхоўнага Савету, пастаўлена вышэй за міністэрствы. Гэты аддзел прадпісвае рэдакцыям, якую інфармацыю і ў якой дозе даводзіць да ведама грамадзян краіны, накладае абмежаваньні на выступленьні ў падкантрольных газэтах, на дзяржаўным радыё й тэлебачаньні дзеячоў апазыцыйных партый.

Па ініцыятыве аддзела друку, радыё і тэлебачаньня быў закрыты незалежны, самафінансуемы 8-мы канал на тэлебачаньні. Палітычная падапля́ка гэтага рашэньня з усёй відавочнасьцю пацьвердзілася ў канцы верасьня 1993 года. Даючы дазвол на аднаўленьне дзейнасьці незалежных тэлекампаній, урадавыя структуры прадпісалі ім «воздерживаться» ад «организации политических программ и предоставления эфира политическим партиям, движениям и парламентским фракциям». Забароненыя таксама камэнтары «к официальным действиям государственных властных структур». Чыноўнікі з аддзела друку, радыё й тэлебачаньня забаранілі самафінансуемым кампаніям даваць эфірны час у арэнду, значыць, апазыцыя ня зможа нават купіць права на выкладаньне сваіх поглядаў народу.

Беларускія сацыял-дэмакраты выказваюць пратэст у сувязі з наступленьнем рэакцыйных сілаў на свабоду слова й друку. БСДГ будзе інфармаваць сацыял-дэмакратычныя партыі іншых краін, эўрапейскую грамадзкасьць аб стане правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

БСДГ выказвае салідарнасьць з журналістамі «Народнай газеты» — апошняга афіцыйнага штодзённага воргана друку, які не знаходзіцца пад кантролем ураду.

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ выказваецца за скасаваньне не прадугледжанага законам аддзела друку, радыё і тэлебачаньня Савета Міністраў. Выканкам рэкамэндуе народным дэпутатам — сябрам Грамады пры абмеркаваньні праэкта закона аб друку настойваць на тым, каб фінансаваньне ворганаў масавай інфармацыі праводзілася не Саветам Міністраў, а праз дзяржаўны бюджэт, як гэта прынята ў дэмакратычных краінах.

**11 лістапада 1993 г.**
**г. Менск.**

**Старшыні Савета Міністраў Беларусі сп. В. КЕБІЧУ.**
**Гэнэральнаму пракурору Беларусі сп. В. ШАЛАДОНАВУ.**
**Народны дэпутат Беларусі З. ПАЗЬНЯК.**

У маім выступленьні 12.XI.93 па дакладу Старшыні Савета Міністраў аб шляхах выхаду з крызісу я паставіў перад ім канкрэтныя пытаньні аб прычынах і мэтах выкарыстаньня 9 й 10 лістапада ў час Сэсіі Вярхоўнага Савета ўнутраных войскаў, міліцыі й ваеннай матарызаванай тэхнікі.

Аднак спадар В. Кебіч у сваім заключным слове ўхіліўся ад адказу на гэтыя пытаньні. У сувязі з такімі яго паводзінамі я раблю дэпутацкі запыт Старшыні Савета Міністраў В. Кебічу.

Мне стала вядома з розных крыніцаў, у тым ліку і з асяроддзя саўмінаўскіх структураў, што вузкім колам урадавых асобаў пад вашым кіраўніцтвам, спадар Кебіч, у дзень адкрыцьця 13-й Сэсіі рыхтавалася палітычная правакацыя з мэтай разгону Вярхоўнага Савета ў выпадку вашай адстаўкі. 5 лістапада вузкім колам людзей з Савета Міністраў была напісана правакацыйная заява «Да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь». Па вашай ініцыятыве на 9 лістапада былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасьць падпарадкаваныя Савету Міністраў часьці Памежных войскаў, і меркавалася перакідка іх у Менск пры пэўнай неабходнасьці. Па вашай ініцыятыве да Дома Ураду, дзе адбываецца Сэсія, былі сьцягнутыя ўнутраныя войскі, часткі міліцыі спэцыяльнага прызначэньня, якія акружылі Дом Ураду й былі ўведзеныя непасрэдна ў Дом, занялі там ўсе ўваходы і выхады. Да Дома Ураду былі прыгнаныя дзевяць «бэтээраў». Два з іх пры поўным боекамплекце. Была тут і іншая тэхніка. Дэманстрацыя сілы прадаўжалася два дні, 9 й 10 лістапада.

У сувязі з вышэйсказаным прашу паведаміць:

1. З якой мэта былі прыведзеныя часьці ўнутраных войскаў і матарызаваная тэхніка з боекамплектамі да Дома Ураду 9 й 10 лістапада?

2. З якой мэтай былі напісаны й распаўсюджаны ў сродках масавай інфармацыі правакацыйны зварот «Да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь» 5 лістапада, хто яго аўтары й кім ён падпісаны?

3. Хто аддаў загад на выкарыстаньне ўнутраных і памежных войскаў і АМАПа? Кім гэты загад падпісаны? Прашу прадставіць копію гэтага загаду для азнаямленьня.

У сувязі з тым, што ў вышэйназваных дзеяньнях утрымліваюцца, на мой погляд, прыкметы дзяржаўнага злачынства, прашу Гэнэральнага пракурора Беларусі сп. В. Шаладонава правесьці дазнаньне па азначаных фактах.





# ГРАМАДЗТВА

## На партыйныя складкі не зьясі аладкі

Глядзеў нядаўна, як на пляцы імя Леніна ў Горадні мітынгавалі вэтэраны пад чырвонымі сьцягамі, і мне, сталаму беларусу, было ніякавата за сваю дзяржаву, бо тое, што я пачую, нельга назваць інакш, як здрадай дзяржаўных інтарэсаў.

Прамоўцы, якія выступалі перад натоўпам прыкладна ў 150—200 чалавек, ганілі як маглі беларушчыну, заклікалі да аднаўленьня імпэрыі ад Буга да Курылаў. І, канешне, яны як маглі ўсхвалялі свайго «хрыста» Уладзіміра Ульянава. Мяне гэта не зьдзівіла, бо за саракагадовы тэрмін працы на заводзе я прывык да масавых сходаў, дзе заўжды ідзі Леніна жылі й перамагалі. Дзівіла зусім іншае: апантаныя абаронцы «сьветлай будучыні» казалі, што народ Беларусі заўжды лепей жыў, чым расіяне. Асабліва стараўся сівы «аратар», які казаў, што ў пасьляваенны час ён прыехаў да нас на Беларусь з Тамбова і што ў спаленай вайной Беларусі было чаго пад ´есьці і апрануць. Таму ён застаўся на гэтай зямлі, каб дапамагчы тутэйшым людзям збудаваць калгасы, камуны. Прамоўца з задавальненьнем расказваў, што беларусы былі вельмі гасьціннымі й цярплівымі, яны маглі гадзінамі слухаць пра «цудоўнае жыцьцё расейскіх калгасьнікаў», але чамусьці ісьці ў калгасы не жадалі. Толькі дзякуючы захадам НКУС удалося згуртаваць сялян у калектыўныя гаспадаркі. І далей — болей...

Былі заклікі вярнуць назад маёмасьць КПСС — КПБ, бо яна збудавана на складкі як партыйнай намэнклятуры, так і шэраговых камуністых. Вось гэта зьява мяне вельмі бянтэжыць: пра якія канкрэтна будовы на складкі вядуць размову гэтыя людзі? Можа, пра тыя вайсковыя гарадкі, што безьліч былі панатыканыя ў краінах сярэдняй Эўропы? Дык тут яшчэ трэба вызначыць, колькі стратаў, жаху прынесьлі вайсковцы народам гэтых дзяржаў, у тым ліку й свайму «савецкаму народу». Ня цяжка падлічыць, колькі народных сродкаў высмактала з дзяржаўнай кішэні рэвалюцыя на Кубе, Анголе, Эфіопіі й г. д. А які каштарыс закладзены на падтрымку ўсялякіх левых і лявацкіх партый у розных кутках сьвету? Мы сёньня ведаем дакладна, што на гэтую справу выкінутыя бязсэнсоўна сотні мільёнаў інвалютных рублёў. Цывілізаваныя заходнія дзяржавы на чале з ЗША не маглі супрацьстаяць эканамічна й вайскова ў барацьбе з савецкім экспартам рэвалюцыі ў краіны трэцяга Сьвету. Але мы ведаем, што ня толькі зброяй і ідэялёгіяй дапамагаў савецкі рэжым камуністых сваім паплечнікам. Ня буду тут спыняцца доўга, а прывяду ўсяго некалькі прыкладаў: Асуанская электроўня ў Эгіпце, заводы й фабрыкі для брацкага кітайскага народа, авіязаводы для лепшага сябра савецкіх камуністых Джавахарлала Нэру. Пры гэтым гонар, розум і сумленьне народа з асалодай будавалі новыя гаркамы, абкамы, вілы, лецішчы, безьліч усталёўвалі помнікаў і партрэтаў як свайму правадыру, так і сабе асабіста. Праводзілі штогод свае камуністычныя сьвяты. Няўжо на ўсе гэтыя мэрапрыемствы хапала адных толькі складак? Канешне ж, не, бо, як сьведчыць нам сучасная рэчаіснасьць, на свае складкі цяперашнія пэкэбоўцы жывуць значна сьціплей. Ім нават не хапіла сродкаў, каб на свае мітынгі набыць узмацняльнік.

Але зразумець сьвятую праўду гэтыя «абаронцы» працоўнага чалавека не жадаюць. Яны па-ранейшаму паўсюдна сцьвярджаюць, што У. Ульянаў — сьвяты чалавек. Ён ні ў чым ня вінаваты, а вінаватыя ва ўсіх грахах Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, Шушкевіч, толькі ня Ленін. Але гісторыя мае іншыя факты, і гэтыя факты, як кажуць, рэч упартая. Зараз ужо не зьяўляецца анікому сакрэтам, што па загаду Леніна ў 1922 годзе на тэрыторыі Савецкай Расеі было больш 50 лагераў, дзе пакутавалі тысячы людзей. Каму, як не Леніну, належаць словы «Первого меньшевика повесим после последнего эсера» ці «Величайшая ашибка думать, что НЭП положил конец террору». Такія пэрлы з выказваньняў Леніна можна бясконца доўжыць. Але, на мой погляд, сёньня ня гэта галоўнае, а тое, каб людзі ведалі праўду, за якую так б ´юцца нашчадкі «жалезнага Фэлікса» й «новага» зямнога бога Уладзіміра Ульянава.

**В. ЖУК,**
**Горадня.**

**Ганарар прашу пералічыць на разьвіцьцё газэты «Пагоня».**

## Жыцьцё па сабекошту

Той з гарадзенцаў, хто на працягу мінулага месяца быў у іншых вабласьцях і сталіцы рэспублікі, не мог не заўважыць, што цэны на некаторыя прадукты харчаваньня там былі ніжэйшыя, чым у Горадні: хлебабулачныя вырабы дзешавей у 3—7 разоў, макаронныя вырабы — у 2—2,5 раза, сьметанковае масла — удвая. Наш карэспандэнт папрасіў пракамэнціраваць гэтую зьяву загадчыка аддзела цэн Гарадзенскага аблвыканкаму С. Мацюка.

Ён растлумачыў, што прэйскурантам вызначаны фіксаваныя цэны толькі на два віды хлеба з жытняй мукі і два віды батона, сродкі на пакрыцьцё выдаткаў выдзяляюцца з бюджэту. Астатнія хлеба-булачныя вырабы, а таксама макаронныя і сьметанковае масла рэалізуюцца па свабодных цэнах, якія ўстанаўліваюць прадпрыемствы-вытворцы ў залежнасьці ад сабекошту прадукцыі (гранічны ўзровень рэнтабельнасьці на хлеб складае 15 працэнтаў, на муку — 10). Дарагоўля іх тлумачыцца, у першую чаргу, тым, што разьліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь маюць ніжэйшы курс у адносінах да расейскага рубля пры тым, што сыравіна для вытворчасьці набываецца ў асноўным за межамі Беларусі. Вельмі высокія таксама транспартныя тарыфы: за адзін кілямэтр перавозкі трэба заплаціць каля тысячы рублёў. Акрамя таго, на 28 працэнтаў павялічае цэны гандаль.

Сяргей Аляксандравіч сказаў таксама, што аблвыканкамам дадзена магчымасьць самім вызначаць, якія тавары дацiраваць з бюджэту, а якія — не. Значыць, у Менску адшукалі сродкі (па яго зьвестках, нядаўна значную суму дадаткова пералічылі ў гарадзкі бюджэт Менскі трактарны завод), таму некаторыя тавары там дзешавейшыя, чым у Горадні. Таму, калі б на поўную магутнасьць працавалі прамысловыя прадпрыемствы горада, напрыклад, ВА «Азот», то былі б большыя адлічэньні ў бюджэт і, магчыма, ніжэйшыя цэны на прадукты харчаваньня.

Ён паведаміў таксама, што лістападаўскае павышэньне цэнаў на мясамалочную прадукцыю тлумачыцца тым, што з 15 чысла на 50 працэнтаў павялічыліся закупачныя цэны на сьвініну і з 72 тысяч рублёў за тону да 144 тысяч узрасьлі закупачныя цэны на малако.

На пытаньне, ці плануецца ў сьнежні павышэньне цаны на чорны хлеб, С. А. Мацюк адказаў, што гэта не выключана, бо сабекошт аднаго бохана хлеба зараз складае болей 500 рублёў.

**А. Д.**

P. S.: Калі нумар рыхтаваўся да друку, цэны на хлеб з жытняй мукі павысіліся ў два разы.

## Бог стварыў зямлю як храм, дзе павінна хапаць месца ўсім

Здаўна назіраю за дзейнасьцю рэлігійнай суполкі Горадні «Благая вестка». Суполка як суполка — зьбірае штотыдзень грошы на будаўніцтва сьвятога храма, фундуе адну з гарадзенскіх газэт, вядзе прапаганду слова Божага ў людзкія душы. Але на фоне гэтых звычайных земных спраў хрысьціянскай місіі выдзяляецца асоба духоўніка суполкі пана Фіськова. Найперш ён абвясьціў сваю дыяспару вернікаў апазыцыйнай да праваслаўя і каталіцызму. Як высьветлілася, гэтага яснавяльможнаму служцы слова Божага мала. Цяпер пан Фіськоў стаў у апазыцыі да беларускага слова, тым самым засьведчыўшы свае адмоўныя адносіны да ўсяго беларускага. Магчыма мяне не кранула бы так моцна гэты факт, бо ён тычыцца асабістых чалавечых якасьцяў пана Фіськова. Але, вышэйзгаданая асоба зьяўляецца прапаведнікам Сьвятога пісаньня для прыхільнікаў веры ў Бога па вучэньні сістэмы «Благая вестка». Таму мне асабіста неабыякава, што ў сваіх пропаведзях кажа прысутным гэты пан. А ён супраць разьвіцьця беларускай мовы, а значыць, і культуры, бо інакш як разумець ягонае выслоўе, што руская мова значна лепшая і прыгажэйшая, і сама гісторыя расейскай дзяржавы куды старажытней і цікавей за гісторыю Беларусі. Можна з гэтым выказваньнем пана Фіськова ой як паспрачацца ў выпадку, калі б мой апанэнт быў навукоўцам-гісторыкам. Але ж ён не навуковец, а проста прасьвіцер сэктанцкай-пратэстанскай царквы, які мае толькі сярэднюю адукацыю, таму й паленізаваць з ім лацьвей на тэалягічнай глебе. Шаноўны прасьвіцер, відаць, ведае, у якім парадку і на які дзень Бог стварыў Сонца, Зямлю, Паветра і г. д. Да гэтага трэба дадаць, што Бог стварыў Зямлю як адзін агульны храм для дзяцей Божых — людзей — і для «тварей безмолвных» — жывёл. Затым па волі Бога сталіся народы і іх мовы, традыцыі, звычаі. Адмаўляць жа права беларускаму народу ў існаваньні, мацаваньні сваіх моўных і гістарычных традыцый чалавеку-хрысьціяніну, а тым больш сьвятару — нельга, бо тым самым парушаецца закон і вучэньне Боскае. Гэта найперш павінен ведаць любы сьвятар, калі ён сапраўды служыць Богу.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Народ стаміўся чакаць

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта тое, што падаткі ніхто не адмяняў, наадварот, урад вядзе жорсткую падаткавую палітыку, а сацыяльная абарона насельніцтва зьнікла. Маламалу становіцца платнай адукацыя, лекі. Куды ж дзяюцца грошы падаткаплацельшчыкаў? Выснова адна — яны йдуць на фінансаваньне непамернага дзяржаўнага апарату, якому невыгадна весьці палітыку рэформаў, бо гэта найперш выкліча скарачэньне штату разнастайных чыноўнікаў. Яны, наадварот, за павелічэньне колькасьці дармаедаў. Навокал толькі й бачым рост бюракратычнага штабу. Але гэта толькі адзін бок. Каб упэўнена сябе адчуваць у сваіх фатэлях, шаноўны ўрад значна павялічвае колькасьць праваахоўных органаў, падпарадкоўваючы іх сабе. Нам жа наўзамен толькі абяцанкі ды неякасныя тавары, на якія з шалёнай хуткасьцю ўзрастаюць кошты.

Таму лічу, што годзе ўжо абяцанак, давайце, пакуль яшчэ цярпеньне нашага народу не ўскіпела, разам будаваць цывілізаваны, дабразладжаны рынкавы мэханізм нашай дзяржавы, а не прыдумваць у цёплых габінэтах нейкія незразумелыя палоўчатыя мэтады пераадольваньня крызісу. Народ стаміўся чакаць.

**Г. СКОРАДУМАЎ,**
**сябра Апостальска-народнай партыі.**

## Паагітуйце там, дзе вас помняць па справах

Нядаўна на адным з мітынгаў, з ´арганізаваным вэтэранамі — камуністамі Горадні, да мяне падыйшоў знаёмы і згадаў: «Ведаеш гэтых людзей, што выступаюць з прамовамі?»

У адказ я пацiснуў плячыма, маўляў, хто іх ведае, гэтых зьдзіцянелых старых?

Вось гэта — таварышч Сасноўскі, ён — былы сакратар райкаму ў мястэчку Сьвіслач. А гэта — таварышч Тарасаў, ён да нас прыехаў пасьля вайны, здаецца, з Растова. Быў некалі першым камуністам у Воранаве.

Чаму ж яны не засталіся жыць на месцы сваёй працы і там бы агітавалі? Іх жа, відаць, добра ведаюць тамтэйшыя людзі?

Так-то яно так, але, відаць, за час свайго кіраваньня нарабілі столькі «спраў», што цяпер у вочы людзям сорамна глядзець. Вось таму й уцякаюць гэтыя «былыя» туды, дзе іх меньш ведаюць, дзе схавацца лепей. Без чаргі атрымоўваюць жытло і ў вольны час бавяцца ў камунізм.

Дарэчы, практыка пераяжджаць па выхаду на рэнту ў іншае месца жыхарства практыкавалася сістэмай камуністых заўжды. Вось табе прыклад: быль сакратар абкаму Л. Г. Кляцкоў выйшаў на пэнсію і, каб ня чуць у свой адрас кпінаў ад людзей, зьбег да Менску. Таксама рабілі і яго папярэднікі. А вазьмі членаў ЦК КПБ: яны сьпяшалі ў Маскву, бліжэй да Ваганькаўскіх кладоў. Заставаліся на месцы хіба што толькі старшыні сельсаветаў.

Адыходзячы з мітынгу, падумаў: «Хавайцеся-не хавайцеся, таварышы першыя, другія й трэйція сакратары,— вашы справы самі за сябе кажуць людзям праўду».

**Г. У.**

## Цягнік зьмяняе маршрут

Пасьля ўвядзеньня Летувой візавага рэжыму на ўезд у краіну вялікая колькасьць пасажыраў, што ня маюць замежных пашпартоў, страцілі магчымасьць ажыцьцявіць паездку на 35/36 цягніку «Беласток — Масква» з Горадні ў бок Расеі, і наадварот, бо без гэтага дакумэнта яны не маглі нават набыць білет. У хуткім часе становішча перайначыцца. 19-га сьнежня з Беластока і 20-га з Масквы цягнік крыху зьменіць свой маршрут: ён не паедзе па Летувіскай чыгунцы, а будзе спыняцца ў Мастах, Лідзе, Маладзечна. Зьменіцца таксама расклад яго руху.

**А. Д.**

# *ПАДАРОЖЖЫ*

Алесь АСТРАЎЦОЎ

## На карнавал у каралеўскую краіну, дзе на палях расьце ячмень

**ЧАСТКА ДЗЕВЯТАЯ: «ДАНМАРК»**

**1. Назовы**

Міхель сьмяецца: «Расейцы лянівыя, ім лянота выгаворваць «Данмарк», а таму яны й скарачаюць — Данія». Я пасьміхаюся ў адказ, але ён ня мае рацыі, «Данія» — і ў палякаў.

Сталіца называецца Кабэнгаўн — «Гандлёвая гавань». Капэнгаген — гэта ўжо пайшло ад немцаў.

**2. Людзі**

Няхай гэта прагучыць банальна, але адносіны паміж тутэйшымі людзьмі можна акрэсьліць двума словамі: сяброўская дабразычлівасьць. Ствараецца ўражаньне, што ўсе данійцы разам — гэта адна дружная сям'я. Служачы парлямэнту, узброены да зубоў ахоўнік з міністэрства абароны, маладая кабета з міністэрства замежных справаў — паўсюль нас (дзякуючы Міхелю) сустракалі настолькі цёпла, што я, не разумеючы аніводнага слова, пасьля пытаўся: «Гэта што — твой сваяк, альбо школьны сябра?» Міхель кожны раз адказваў: «Я яго першы раз бачу».

Досыць прахалодна да нас паставіліся толькі ў дэпартамэньце па справах замежнікаў. Кожны дзень там вымушаны разьбірацца з сотнямі туркаў і арабаў.

**3. Жанчыны**

На працы й у паўсядзённым жыцьці яны ніколі не карыстаюцца касмэтыкай. Па гэтай прычыне ў параўнаньні з нашымі гарадамі, дзе кожная кабета ня выйдзе з дому, не пакарыстаўшыся прыладамі «для завіваньня й прыкрас, каб трохі зьменьшыць перашкоды, пахібкі матухны прыроды», вуліцы данійскіх гарадоў, на першы погляд, выглядаюць амаль цалкам пазбаўленымі прыгожых жанчынаў. Але пабыўшы некалькі дзён, гэтага ўжо не заўважаеш.

Затое ўжо калі сустрэнеш прыгажуню, дык застаецца толькі азірнуцца. Заўважана тое, што позіркі ў іх — проста нармальныя. Ніхто не «страляе вачыма», і ніхто не паглядае фанабэрліва.

**4. Машыны**

Шыкоўных лімузінаў на менскіх вуліцах значна больш, чым у Капэнгагене. Найбольш часта сустракаюцца танныя французскія «Сітраэны». Нямецкіх машынаў практычна няма — дужа дарагія, толькі носяцца «Мэрсэдэсы — 190». Даволі шмат спартовых, накшталт «Паршэ», мадэляў, а таксама расейскіх «Жыгулей».

Калі вадзіцель бачыць перад сабой хаця б мэтраў з дзьвесьці вольнае дарогі, ён абавязкова цісьне на газ. Так што пераходзіць вуліцы трэба вельмі ўважліва.

**5. Трактары**

Трактары «Беларусь» у Даніі чамусьці называюцца «Форд».

**6. «Уль»**

Прыкладна так па-данійску гучыць «піва». Адсюль і паходжаньне самага традыцыйнага тосту: «Скюль!» — адпаведнік расейскаму «За здароўе!» Мы доўга ламалі галаву, які ж традыцыйны тост у нас, беларусаў? Так і ня прыйшло ў галаву лепшага, чым «За Яе!»

«Данмарк» са старажытна-данійскай мовы перакладаецца прыкладна як «рунь», «палеткі», карацей «поле, на якім што-небудзь расьце». Мы вырашылі, што гэта поле, на якім расьце ячмень. Піва ў Даніі — нацыянальны гонар. Уласна я перакананы, што лепшага ў сьвеце няма. І якім бы патрыётам я ня быў, але «Лідскаму» далёка...

«Карлсбэрг», «Тубарг» — ня часта вы сустрэнеце гэтыя назвы на прылаўках нашых нават валютных крамаў. Данія — краіна вельмі кансэрватыўная. Хочаце пакаштаваць іхняга піва? Прыяжджайце ў Данію. Ад сябе магу дадаць, што не расчаруецеся.

Як і ў Лідзе, тут ня трэба пытацца кабеты, ці будзе яна піць піва, яна не адмовіцца. Яго тут — мноства гатункаў, выпускаюцца нават да ўрачыстасьцяў: «Вялікоднае», «Каляднае», «Файны Фэстываль». Усё гэта — яшчэ адзін повад, каб пашкадаваць за ўласную гісторыю — наш славуты лідзкі Пупко пачынаў справу ў адзін час з Карлам Якабсанам.

**7. Аўтобусы**

Пасажырскія аўтобусы зьвязваюць невялікія мястэчкі з усімі навакольнымі вёскамі. Гэта нешта сярэдняе паміж гарадзкім і міжнародным «Ікарусам». Ходзяць яны досыць часта, у кожным аўтобусе ў плястыкавай кішэньцы ляжаць расклады руху з указаньнем часу прыбыцьця на ўсе прамежкавыя прыпынкі з дакладнасьцю да адной хвіліны. Менавіта так яны й ходзяць, у чым можна пераканацца з дапамогай электроннага гадзіньніка, які вісіць над кабінай кіроўцы.

**8. Ээруп**

Вёска, дзе жыве маці Міхеля — на першы погляд дакладная копія ўсіх астатніх. У цэнтры на плошчы — супэрмаркет, культурны цэнтр і абавязковы піўны бар. У розныя бакі разыходзяцца вуліцы, паабапал якіх вельмі падобныя аднадзьвюх-павярховыя катэджы. Участкі суседзяў аддзяляюцца хвойнымі або хмызовымі зарасьнікамі. У двары — абавязкова белы плястыкавы стол, абстаўлены такімі ж крэсламі, а таксама флагшток з узьнятым данійскім (белы крыж на чырвоным полі) сьцягам ці вымпелам таго ж колеру — марская краіна!

У полі паміж вёскамі стаяць высокія белыя ветракі — малыя электрастанцыі, часам па тры-пяць разам.

**9. Роскілд**

Гэта невялікае мястэчка, якое у той жа час займае досыць вялікую тэрыторыю, бо забудавана спрэс невысокімі трохчатырох-павярховымі дамамі. Але ў сьпісе данійскіх гарадоў Роскілд паважна займае прыкладна шостае-сёмае месца пасьля Капэнгагена. Пацьверджаньнем значнасьці з'яўляецца й вялізарнейшая старажытная кірха, якая ўздымаецца ўвышыню на вяршыні цесна забудаванай дамкамі гары, якая месьціцца на беразе марскога заліву, які, дзякуючы сваім блытаным абрысам, больш нагадвае возера.

Жыхары беларускай правінцыі пазбаўлены вялікай колькасьці выгодаў, даступных тым, хто жыве ў вялікіх гарадах. Гэтага нельга сказаць пра роскілдзкіх месьцічаў. Тут ёсьць усе ўмовы для паўнацэннага цывілізаванага жыцьця, уключна з філіяй Капэнгагенскага унівэрсітэту, яхт-клюбам, прыстаньню для хуткасных катэраў, ды школу верхавой язды. Дарэчы, коні — яшчэ адзін пункт нацыянальнага гонару. Верхам езьдзяць выключна ў жакейскім строі.

**10. Дзіцячая крама**

Уваход у яе месьціцца ў даўгім шэрагу супэрмаркетаў па продажы харчовых тавараў, шыкоўных ювэлірных крамаў, мьюзык-шопаў і шматлікіх кавярань, якія займаюць усе першыя паверхі дамоў паабапал старой вуліцы ў цэнтры горада. Звонку яна ўдае на невялічкую крамку па продажы паштовак і пэрыёдыкі. Памылковае ўражаньне, бо ўнутры гэты сапраўдны «дзіцячы сьвет» займае бадай паўкварталу. Варта дадаць, што разам з цацкамі тут гандлююць і канцтаварамі.

У кожным дарослым чалавеку жыве дзіцё. З болем у сэрцы за сваё «шчасьлівае дзяцінства» мы, уздымаючыся па прыступках, прасоўваліся наперад у гэтым лабірыньце гандлёвых заляў. Вакол — тысячы, дзесяткі тысячаў тавараў, сярод якіх практычна няма ніводнага, які не хацелася б набыць альбо проста патрымаць у руках. Спыняюць аднак проста недаступныя кошты.

**11. «Брыдкае качаня»**

Мы сядзелі на прыстані. Побач з намі паважна гойдаліся на хвалях гожыя яхты. Паўсюль між людзей хадзілі тоўстыя качкі, якія ня выказвалі ні малейшага страху. Некалькі падыйшлі да нас і дапытліва паглядзелі нам у вочы — яны чакалі пачастунку. На жаль, у нас нічога з ежы ня было. Птушкі завярнуліся й, зьняважліва пазіраючы «праз плячо» у наш бок, пасунуліся да вады.

Усё гэта нагадвала знакамітую казку Андэрсэна пра птушыны двор.

**12. Экспрэс**

Мы падыходзілі да невялікага тунэля, праз які гарадзкая вуліца перасякала чыгунку, і ад нечаканага сьвісту над нашымі галовамі літаральна прыселі. Уражаньне было такое, быццам над намі ўзьлятаў самалёт.

Хуткасныя экспрэсы злучаюць Капэнгаген з ускраінамі краіны. Гэта — яшчэ адна рэч, якой вельмі ганарацца данійцы: усё, ад першага эскізнага крэсьлюнка, да апошняй дробнай дэталі канчатковай зборкі зроблена імі самімі.

**13. Смачна есьці!**

Калі мы пасьля Менска трапілі ў Варшаву, дык усе гэтыя хот-догі, запяканкі, якія мы елі ў шматлікіх невялічкіх кавярнях, што ў цэнтры горада сустракаюцца літаральна на кожным кроку, падаліся нам сапраўды «ежай багоў». Калі мы трапілі ў Данію, дык зразумелі, што ўсё гэта там — непараўнальна смачнейшае. Хаця здавалася, куды ўжо лепш?

Пры ўсёй сваёй прамысловасьці Данія была й застаецца аграрнай краінай. І хаця гэта далёка ня так, але нам можа падацца, што там існуе культ ежы. Усе прадукты максымальна чыстыя, якасныя й смачныя.

**14. Гартуйся, як сталь!**

У Даніі — адзін з самых высокіх у Эўропе ўзровень жыцьця. Ён даецца ня проста, прыходзіцца эканомна ставіцца да ўсяго. Узімку жылыя памяшканьні цепляць заўсёды так, як пачалі цяпліць у нас толькі з гэтага году. Але справа ў тым, што данійцы даўно да гэтага прызвычаіліся.

Калі з мора дзьмуў халодны брыз, мы апраналі швэдры з лёгкімі курткамі й горача нам не было. А данійцы спрэс шчыравалі ў адных футболках — ад малых дзяцей да людзей сталага веку.

**15. Суседзі**

Мы пастаянна пераконвалі саміх сябе, што, не зважаючы на эканамічныя цяжкасьці, адносіны паміж людзьмі застаюцца ў нас цёплымі й добразычлівымі. І наадварот, там, у іх, людзі жывуць замкнёна, і адносіны паміж імі рэдка пераходзяць рамкі афіцыйнасьці. Я б сказаў, што гэта, мягка кажучы, ня так.

Калі суседзі Ёны Якабсэн даведаліся, што ў яе невялічкі дамок прыехалі ў госьці ажна дзесяць чалавек, Біргіт і Крысьціян Мадсаны тут жа аддалі ў наша распараджэньне цэлы паверх свайго вялікага дома. А ў апошні вечар яны наладзілі нам сапраўдны прыём на, як яны сабе гэта ўяўляюць, «рускі капыл». У двары пад паветкай смажыліся шашлыкі, ціха гарэў камін, на сталах была бульба, катлеты, піва, віно й нават (!) гарэлка. Пасьля гэтага Біргіт Мадсан прызналася маці Міхеля, што да таго ніколі ў жыцьці ня піла гэтага моцнага напою й ня была такой пьяною.

Сам Крысьціян аказаўся камуністам. І хаця кампартыя Даніі самараспусьцілася год таму, ён застаўся верны сваім перакананьням. У яго нават машына дэмакратаўская — «Шкода».

**16. Квіткі**

Квіткі капмасуюцца пры ўваходзе ў аўтобус, на чыгуначным вакзале кампостэры знаходзяцца на пэроне. На іх адбіваецца час, і на працягу дзьвюх гадзінаў вы можаце сядаць па адным квітку ў любы транспарт, трэба толькі паказаць яго кіроўцу. Праўда, яны падзяляюцца на тры зоны — па 8, 16 і 24 кроны за кожны адпаведна.

**(Працяг будзе).**

## «Па тэлефоннаму званку я еду на выклік...»

Іра прыйшла на сустрэчу ў дакладна вызначаны час. Стрыманая, элегантная. Апранутая ў чорную скураную сьвітку і чырвоныя ласіны, яна нічым не нагадвала прадстаўніцу самай старажытнай жаночай прафэсіі. Працягнуўшы для вітаньня руку, ветла згадала сваю мянушку — «Бляндынка» і, ўздыхнуўшы, тут жа дадала, што, каб між намі не было непаразуменьняў, лацьвей адразу ж перайсьці на «ты».

Мы рушылі ўздоўж цэнтральнага пляцу, а мая субяседніца, памаўчаўшы хвіліну, распачала аповяд. Завуць яе «Бляндынкай» за доўгія белыя косы. Змалку, яшчэ ў школе, ёй вельмі не падабалася тое, як настаўніца пасьля вывучэньня нейкага верша ці апавяданьня пра заможнае жыцьцё савецкага рабочага па чарзе апытвала вучняў, кім тыя хочуць быць па прафэсіі. Казаць, што ёй вельмі да спадобы працаваць даяркай ці жняей, не хацелася. Іра заўжды марыла мець рэдкую прафэсію. І хоць нарадзілася й жыла ў сям'і старшыні калгаса, але ўявіць сябе на ферме ці ў полі аніяк не магла.

Знаёмства з сваёй сучаснай працай пачалося на першым курсе Менскага інстытута замежных моў. Да дзяўчат у інтэрнат заходзілі ў госьці замежныя студэнты. Нярэдка сваім сяброўкам яны дарылі дарагія прэзэнты. Тыя з дзяўчат, хто сябраваў з замежнікамі, вялі сябе йнакш, чым астатнія. У іх быў свой сьвет, свой ўзровень узаемаадносін, свой стыль жыцьця. Іра вельмі захацела трапіць у невядомае ёй асяроддзе. Пачуўшы пра жаданьне першакурсьніцы сябраваць з іншаземцамі, тыя, хто штодзённа бадзяўся з імі па шынках і рэстаранах, спачатку разсьмяяліся. Але паглядзеўшы на высокія грудзі, доўгія ногі, статную фігуру прасіцелькі, паабяцалі дапамагчы. Пры першай жа сустрэчы дзяўчыне прыйшлося зрабіць усё, што пажадаў яе знаёмец. На жаль, тады Іра ня многа ўмела. І абраньнік для высокага ўзроўню жыцьця зьнік. Сяброўкі заспакоілі Іру — маўляў, нічога страшнага тут няма, знойдзем табе другога. Але каб болей не было недарэчнасьцяў, ёй шмат чаму трэба было навучыцца. І памагатыя пачалі вучыць Іру. Вадзілі яе на прыватныя кватэры, дзе за «чырвонец» можна было паглядзець парнаграфічны фільм, давалі літаратуру, парады.

Ад чарговага замежнага знаёмага Іра даведалася, што ў прафэсіі прастытуткі ёсьць шмат разрадаў. Найбольш памножаны разрад — вулічная прастытуцыя, але ёсьць і элітны разрад — путаны — адукаваныя ўсебакова, элегантныя жанчыны. Праўда, гэта праца толькі адмысловая, і паслугі тут выключна толькі для заможных сфэр.

... Адразу трапіць у колы элітнай прастытуцыі было цяжка. Памагатыя бралі грошы, падарункі, а спрыяць Ірыне не сьпяшаліся.

Дапамог ёй зрабіць кар'еру путаны выпадак. Падчас практыкі ў Берасьці яна пайшла ў рэстаран «Юбілейны», дзе яе адразу ж прыкмеціў суцянёр. Знаёмства было жорсткаватым. Суцянёр прапанаваў ёй прайсьці з ім у адзін з нумароў гатэля, дзе Ірыне давялося распрануцца й паказаць усе свае здольнасьці й уменьне. Ударылі па руках і дамовіліся, што, Арнольд — так звалі пратэжэ Іры — будзе ёй дапамагаць выбіраць кліентаў, набываць прыгожую вопратку, гарантаваць абарону. А за гэта яна будзе аддаваць Арнольду 50% свайго заробку.

Праца ў Берасьці задавальняла Ірыну. Ёй за ноч даводзілася працаваць з некалькімі ахвочымі да сэксуальных паслуг. Часьцей гэта былі замежныя турысты, камэрсанты. Здаралася абслугоўваць і ценявых мілінэраў Савецкага Саюза.

Час практыкі праляцеў, і Іра не пажадала вяртацца ў інстытут. Але Арнольд пераканаў яе ў неабходнасьці скончыць інстытут. Паабяцаў, што будзе выклікаць яе ў Берасьце. Слова сваё Арнольд стрымаў. І Ірына, ня рэдка кінуўшы заняткі, самалётам адбывала на выклік.

Пасьля атрыманьня дыплёма размеркаваньне прывяло яе ў Гародню. Але працы сваёй яна не кідае, паранейшаму езьдзіць па тэлефоннаму званку ў Берасьце. Так лепей, лічыць яна: Гародня—невялікі горад. Тут пакуль што няма шыкоўных гатэляў, няма багатых кліентаў. Абы з кім путана ніколі ня пойдзе да ложка. Гэта закон для існаваньня элітнай групы прастытуцыі. Яшчэ Ірына аддае перавагу Берасьцю таму, што там яе ніхто ня ведае. У Гародні — калегі па працы, знаёмыя. Часам, трапіўшы ў кватэру Ірыны, яны дзівяцца, адкуль у яе столькі шыкоўных рэчаў, дарагой мэблі, электроннай тэхнікі. Каб пазьбегнуць непажаданых пытаньняў, яна не запрашае ў госьці нікога. Жыць жа без сяброў, без родных вельмі цяжка. Прасьцей сказаць—сумна. Душа ірвецца да кантакту, а сказаць пра сваю прафэсію так, каб зразумелі, няма каму. Ёсьць у гарадзенскай путаны жаданьне нарадзіць дзіця, якому яна аддасьць ўсю сябе. Неяк няўтульна сярод раскошы адчуваць сябе адзінокай, ведаючы, што на зямлі ня ўсё вечна.

Мы ідзем з Ірынай да знакамітай Фары Вітаўта, вецер разьвівае яе доўгія белыя кучмы. Яна спыняецца, маўчыць, а потым нечакана згадвае, ці пагадзіўся б я за «Лімон» расейскіх рублёў стаць бацькам яе дзіцяці. Усьміхнуўшыся, яна разьвітваецца і сьпешна зьнікае, папрасіўшы напасьледак паведаміць, калі ў газэце выйдзе яе аповяд.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

